Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 700.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Аўторак, 25 жніўня 1998 г. | № 88 | Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Аштрафавалі за паслоў

**37,5 мільёна рублёў штрафу атрымаў кіраўнік Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ Анатоль Фёдараў за арганізацыю пікета пратэсту, прысвечанага дыпламатычнаму канфлікту вакол Драздоў.**

Пікет адбыўся ў сярэдзіне ліпеня. У ім бралі ўдзел прадстаўнікі ўсіх апазіцыйных дэмакратычных партыяў і арганізацыяў Магілёва — усяго каля 40 чалавек. Пікетчыкі выступалі супраць палітыкі беларускага кіраўніцтва, якое яны лічылі галоўным віноўнікам ад'езду заходніх дыпламатаў. Людзі трымалі плакаты: *«Пазбавім Беларусь ад хамскай улады!»*, *«Знявага дыпламатаў — знявага для нас!»* і іншыя. Міліцыя тады ў справу не ўмешвалася, але пазней быў складзены пратакол і перададзены ў суд.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### Рэха Драздоў

*Беларусь пакінуў яшчэ адзін амерыканскі дыпламат*

Прадстаўнік узброеных сілаў ЗША палкоўнік Геральд Макіні быў каардынатарам праграмы «Ваенныя — ваенным». Як паведамілі ў інфармацыйнай службе пасольства ЗША, палкоўнік Макіні адбыў з Мінска ў сувязі з прыпыненнем урадам Злучаных Штатаў рэалізацыі ўсіх мерапрыемстваў гэтай праграмы. Такое рашэнне было прынятае ўрадам ЗША ў сярэдзіне ліпеня ў адказ на дзеянні беларускіх уладаў у адносінах да рэзідэнцыі кіраўнікоў дыпламатычных місіяў заходніх дзяржаваў у комплексе «Дразды» пад Мінскам.

*БелаПАН*

### Адамкус адклікаў амбасадара з Беларусі

*Літоўскі пасол Віктарас Баўбліс не вернецца ў Мінск*

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус 21 жніўня падпісаў дэкрэт аб адкліканні дыпламата з Беларусі — у сувязі з заканчэннем чатырохгадовага тэрміну яго паўнамоцтваў.

Новы пасол у Беларусь пакуль не прызначаны. Адзін з супрацоўнікаў літоўскага МЗС паведаміў, што пытанне аб прызначэнні новага пасла *«разглядаецца з выкананнем працэдур, звычайных для гэтага працэсу»*. Па яго словах, адкліканне Баўбліса не звязана з праблемай пасольскай рэзідэнцыі ў мінскім пасёлку Драздзы.

Між тым, са спасылкай на *«іншыя дыпламатычныя крыніцы»* інфармацыйнае агенцтва *BNS* паведамляе, што прызначэнне новага пасла звязанае з вырашэннем праблемы рэзідэнцыі. 55-гадовы пасол паехаў з Мінска 19 чэрвеня ў бестэрміновы адпачынак, калі ўзнікла праблема з высяленнем з Драздоў. Вільнюс вядзе зараз перамовы з Мінскам аб новай пасольскай рэзідэнцыі.

*БелаПАН — BNS*

### Ёсць ідэя стварыць супольнасць грамадзянаў БНР

**Сойм БНФ выступіў са зваротам да грамадзянаў, арганізацыяў і палітычных партыяў, у якім заклікаў падтрымаць ініцыятыву аб далучэнні да грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Мяркуецца ўтварыць супольнасць грамадзянаў БНР, з якой, на думку Народнага Фронту, будуць лічыцца ў нашай краіне і ў свеце. Акрамя таго, можа здарыцца так, што такая супольнасць *«будзе адзінай магчымасцю захаваць незалежную Беларусь»*, — адзначаецца ў звароце.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**





***Гэты знакаміты здымак быў апублікаваны ў нашай газеце чатыры гады таму — калі Віктар Чарнамырдзін прылятаў у Мінск, каб падтрымаць на выбарах свайго прыяцеля і кандыдата ў прэзідэнты Вячаслава Кебіча. Сёння мы вырашылі яшчэ раз апублікаваць легендарны пацалунак, бо для гэтага з'явілася добрая нагода.*** *(Падрабязнасці на стар.3)*

## Краіна страху і нецярпімасці

*Непрыемную вестку атрымаў афіцыйны Мінск са штаб-кватэры ААН*

Там праходзіць сесія падкамісіі ААН па недапушчэнні дыскрымінацыі і абароне меншасцяў, якая прыняла рэзалюцыю аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі. У дакуменце, які быў прыняты тайным галасаваннем, выказваецца *«глыбокая занепакоенасць тым, што беларускія ўлады незаконным чынам затрымліваюць, трымаюць пад вартай ці іншымі спосабамі пераследуюць беларускіх палітычных лідэраў, журналістаў і праваабаронцаў»*. Такія дзеянні, як адзначаецца ў рэзалюцыі, ствараюць *«атмасферу страху і нецярпімасці»*. Яшчэ адна праблема: *«канцэнтрацыя заканадаўчых паўнамоцтваў у руках выканаўчай улады і слабасць судовай сістэмы, незалежнасць якой пастаянна падрываецца, што не спрыяе забеспячэнню законнасці»*. Падкамісія заклікае кіраўніцтва Беларусі:

Першае: *«зняць абмежаванні на свабоду слова, якія не дазваляюць грамадзянам выступаць з крытыкай»*; другое: *«выконваць міжнародныя пагадненні ў галіне правоў чалавека»*; трэцяе: *«прыняць эфектыўныя меры для забеспячэння незалежнасці судовых органаў»*.

З прэс-цэнтра Хартыі-97 мы атрымалі некаторыя падрабязнасці пра тое, як прымалася рэзалюцыя.

Супраць яе прыняцця выступілі толькі прадстаўнікі Расіі і Кубы. Афіцыйную пазіцыю Беларусі абараняў зняты з пасады пасла С.Агурцоў, якому, відаць, вельмі хацелася рэабілітавацца за правал візіту прэзідэнта Лукашэнкі на эканамічны форум у Кран-Мантана.

У выступе беларускага афіцыйнага прадстаўніка прагучала наступнае: *«Прыняцце рэзалюцыі значна ўскладніць работу Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ, скажу прама, аж да самага яе адклікання з краіны і паставіць на мяжу зрыву ўвесь перагаворны працэс»*.

Відаць, што менавіта выступленне Агурцова, вытрыманае ў духу «пракурорскай» дыпламатыі, адыграла рашаючую ролю ў тым, што нават тыя члены Падкамісіі, якія вагаліся, падчас галасавання падтрымалі рэзалюцыю.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

### Нам засталася спадчына...

*У былой ракетнай шахце задыхнуліся двое падлеткаў*

Шахтную ўстаноўку для запуску ядзернай ракеты ў наваколлі вёскі Курсевічы (Пастаўскі раён Віцебскай вобласці) знайшлі трое юных шукальнікаў каляровых металаў. Пры гэтым двое, спусціўшыся ў шахту, задыхнуліся, таму што на дне шахты быў атрутны газ. Трэці здолеў выбрацца наверх і паклікаць на дапамогу.

*БелаПАН*

### У ліцэй прыйшоў новы дырэктар

**Нарэшце скончылася супрацьстаянне вакол Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа.**

У ліцэй прызначаны новы дырэктар — 56-гадовы Мікалай Плескацэвіч, прарэктар Педагагічнага універсітэта. Уладзімір Колас, які кіраваў ліцэем з дня ягонага заснавання, пагадзіўся заняць пасаду намесніка дырэктара.

Сам Уладзімір Колас перакананы ўсіх, што ніякія кадравыя змены не паўплываюць на якасць педагагічнага працэсу — ліцэй будзе працаваць, як і раней. Застанецца працаваць у ліцэі і Лявон Баршчэўскі, які выкладае літаратуру. Адна ён быў пазбаўлены пасады намесніка дырэктара. Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа падпісаў пагадненне з Педагагічным універсітэтам аб каардынацыі працы. Як паведаміў новы дырэктар ліцэя Мікалай Плескацэвіч, Педагічны універсітэт будзе дапамагаць ліцэю.

Па словах Уладзіміра Коласа, бацькі былі расчараваныя зменай кіраўніцтва, але ніхто сваіх дзяцей з ліцэя не забраў — усе паверылі абяцанням адміністрацыі, што нічога не зменіцца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

***Пікеты***

Актывісты Хартыі-97 у мінулую пятніцу правялі ў Мінску пікет, прысвечаны 30-й гадавіне ўводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію. Акцыю наведалі першы сакратар пасольства Чэхіі і генеральны консул Славакіі.

***Зарплата.***

За сем месяцаў гэтага года сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у Беларусі знізілася з 88 да 73 долараў ЗША (у пераліку па рынычным курсе наяўнай валюты).

***Вёска***

120 мільярдаў рублёў склала запазычанасць па зарплаце ў калгасах і саўгасах Магілёўскай вобласці. Затрымкі ў выплатах дасягнулі ўжо 4—5 месяцаў, а ў некаторых гаспадарках Краснапольскага, Касцюковіцкага і Хоцімскага раёнаў сяляне не атрымлівалі грошы ўжо больш за паўгода.

***Візіты***

На гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка наведае з рабочым візітам Украіну, дзе сустрэнецца з Леанідам Кучмам. Паездка адбудзецца 26—28 жніўня. Чакаецца, што прэзідэнты сустрэнуцца ў Крыме.

***Пошта***

Міністэрства сувязі РБ увяло ў абарот дзве новыя паштовыя маркі — з выявай бусла і зубра. Новыя знакі паштовай аплаты наміналам 500 і 1.000 рублёў выпушчаныя тыражом па пяць мільёнаў экзэмпляраў.

***Гандаль***

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў студзені—чэрвені 1998 года былі Расія (на яе долю прыпадала 60,9 працэнта ўсяго аб'ёму знешнегандлёвага абароту), Украіна (7,3 працэнта), Германія (5,3), Польшча (2,8), Літва (2), Італія і ЗША (па 1,6 працэнта). Пры гэтым доля Расіі ў параўнанні з першай паловай 1997 года вырасла на 5,2 працэнта, долі астатніх названых дзяржаваў паменшыліся (напрыклад, Украіны — на 2,6 працэнта, Германіі — на 0,8 працэнта).

***Семінары***

Семінар з удзелам Генадзя Карпенкі прайшоў у Магілёве. Ён прысвячаўся агульнапалітычнай сітуацыі ў Беларусі, магчымым прэзідэнцкім выбарам 1999 года і выбарам у мясцовыя Саветы. У семінары ўдзельнічалі прадстаўнікі ўсіх апазіцыйных палітычных партыяў з 13 раёнаў Магілёўскай вобласці.

***Мяжа***

Латвія можа неадкладна прыступіць да дэмаркацыі граніцы з Беларуссю, таму што ўсе звязаныя з гэтым тэхнічныя пытанні вырашаныя. Пра гэта паведаміў міністр замежных спраў Латвіі Валдзіс Біркаўс. «Мы можам пачаць рэальны працэс дэмаркацыі», — заявіў ён.

## Беларусы не будуць ваяваць з талібамі

**Беларускія вайскоўцы не будуць непасрэдна ўдзельнічаць у ваенных дзеяннях у выпадку іх перанясення з Афганістана на тэрыторыю СНД.**

Пра гэта заявіў на брыфінгу для журналістаў намеснік міністра замежных справаў Мікалай Бузо. На пытанне, як Беларусь мае намер удзельнічаць у ахове межаў СНД, улічваючы ўмовы Дагавора аб калектыўнай бяспецы, які яна таксама падпісала, Мікалай Бузо адказаў: *«Толькі тэхнічнымі і кансультацыйнымі сродкамі»*.

Прэзідэнт Лукашэнка таксама выказаўся на гэтую тэму. *«Сваіх людзей я туды не пашлю ні пад якім соусам»*, — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

**Аляксей АРЭШКА**

## Гомельская норма

**Цікавае распараджэнне выдаў нядаўна гомельскі гарвыканкам: улады абласнога цэнтра ўстанавілі нормы продажу вучнёўскіх сшыткаў.**

Справа ў тым, што гэты тавар карыстаецца папулярнасцю сярод мясцовых чаўнакоў, якія ездзяць гандляваць у Расію. Напрыклад, у суседняй Бранскай вобласці на кожным прададзеным сшытку можна зарабіць 5—6 тысяч рублёў.

Улады Гомеля вырашылі змагацца з вывазам канцтавараў чыста савецкімі метадамі — цяпер адзін пакупнік можа набыць толькі 50 звычайных і 10 агульных сшыткаў. Але ці спыняць падобныя абмежаванні прадпрымальных гамяльчанаў?

**Аляксандр ІВАНІЦКІ**

КАДРЫ



***Травы сёлета нарасло шмат, але з сенам будуць праблемы: не паспявае высахнуць — зноў дождж.***

*(Здымак зроблены ў вёсцы Дубровіца Навагрудскага раёна).*

## Чаму няма імпарту?

**Да канца 1998 года доля імпартных прадуктаў у агульным аб'ёме рэалізуемага ў Беларусі харчавання павінна знізіцца да 10 працэнтаў.**

Пра гэта паведаміў на сустрэчы з журналістамі кансультант знешнеэканамічнага ўпраўлення міністэрства гандлю Вячаслаў Лявонаў. Па яго словах, бум на імпартныя харчовыя тавары прыпаў на 1996 год. Тады ў многіх крамах іх доля складала 95—100 працэнтаў. Аднак «дзякуючы рашучым дзеянням міністэрства», якое абавязала прадпрыемствы гандлю мець у сваім асартыменце не менш за 75 працэнтаў айчынных тавараў, ужо ў 1997 годзе імпарт у агульным тавараабароце харчавання склаў толькі 12 працэнтаў. Больш таго, цяпер у многіх буйных універсамах сталіцы айчынная прадукцыя складае ўжо 90—95 працэнтаў асартыменту. Па словах Лявонава, гэта тлумачыцца тым, што, па-першае, беларуская прадукцыя больш танная за імпартную, а па-другое — больш якасная, таму што *«беларускія стандарты на харчовыя тавары значна больш жорсткія, чым у любой краіне Захаду»*.

Большасць з імпартнага харчавання, што засталося на прылаўках, складае так званы «крытычны» імпарт, гэта значыць прадукты, якія ў Беларусі вырабіць нельга. Да іх адносяцца морапрадукты, алей, чай, асобныя найменні круп і іншыя тавары. Цэны на іх, лічыць Лявонаў, некалькі завышаныя, паколькі знаходзяцца ў залежнасці ад курсу долара. Да таго ж, па яго словах, замежным пастаўшчыкам *«цяжка растлумачыць, што ў Беларусі ёсць Указ прэзідэнта, згодна з якім адпускныя цэны нельга ўзнімаць вышэй за 2 працэнты»*.

*БелаПАН*

## Епіскапу далі тры гады

**Епіскап Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Пётр Гушча прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.**

Працэс, які праходзіў у судзе Савецкага раёна г.Мінска, па рашэнні суддзі быў закрыты для грамадскасці і журналістаў, паколькі ў справе фігуравалі непаўналетнія. Пётр Гушча абвінавачваўся ва ўчыненні злоснага хуліганства, учыненага з асобай дзёрзкасцю і цынізмам. Яго злачынства, па матэрыялах следства, заключалася ў тым, што ён учыняў у двары аднаго з дамоў па Лагойскім тракце распусныя дзеянні ў дачыненні да дзвюх дзяўчынак — 8 і 10 гадоў. Сам падсудны цалкам адмаўляў сваю віну, аб чым заявіў падчас судовага разбору і ў апошнім слове. Ён заявіў, што супраць яго здзейснена правакацыя як супраць епіскапа Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, абвінавачваў сведак у сказжэннях і няпраўдзе.

Аднак суд палічыў довады П.Гушчы галаслоўнымі, а віну — даказанай з дапамогай паказанняў пацярпелых і некалькіх сведак, а таксама супрацоўнікаў міліцыі, якія праводзілі затрыманне.

*БелаПАН*

## У Салігорску – чыстка

**Горад беларускіх шахцёраў Салігорск рыхтуецца да святкавання свайго 40-годдзя.**

Урачыстасці запланаваныя на апошнія выхадныя жніўня. А цяпер у горадзе разгарнулася сапраўдная генеральная ўборка, першымі ахвярамі якой сталі мясцовыя прадпрымальнікі, уладальнікі гандлёвых кіёскаў. Салігорскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб замене старых кіёскаў, спраектаваных больш за 10 гадоў таму, на новыя, сучаснага дызайну.

Матывацыя простая: старыя кіёскі псуюць твар горада. Прадпрымальнікам далі некалькі дзён на замену гандлёвых кропак. А тым з іх, хто не знойдзе патрэбнай сумы для пакупкі новага кіёска, якая, дарэчы, адпавядае кошту аднапакаёвай кватэры на мясцовым рынку, гарвыканкам даў указанне пераехаць у двары жылых дамоў. Гэтую «параду» скарысталі большасць гандляроў.

*БелаПАН*

## МАЗ можа спыніцца

**Напрыканцы мінулага тыдня была спыненая вытворчасць на Мінскім аўтамабільным заводзе. Прычына простая: на МАЗ ужо два тыдні не паступаюць рухавікі з Яраслаўля.**

Яраслаўскія маторны і завод дызельнай апаратуры не працуюць з 11 жніўня, бо абаротныя сродкі гэтых прадпрыемстваў былі пушчаныя на зарплату рабочым, якія не атрымлівалі грошай аж з сакавіка.

Учора мы патэлефанавалі на Мінскі аўтазавод, і адзін з намеснікаў гендырэктара Міхаіл Саўчанка паведаміў, што работа прадпрыемства аднаўленая. Але машыны збіраюць без рухавікоў і будуць ставіць на тэрыторыі прадпрыемства. На МАЗе штодзённа збіраецца 50 аўтамабіляў, і, на словах Саўчанкі, калі ў самы бліжэйшы час яраслаўскія заводы не адновяць работу, то наш аўтазавод можа зноў спыніцца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Лавіце нелегалаў!

**Газеты Нараўлянскага, Ельскага і іншых раёнаў Гомельскай вобласці надрукавалі зварот Мазырскага аддзела КДБ да мясцовага насельніцтва.**

«Чэкісты» просяць жыхароў паведамляць у КДБ пра кожны выпадак з'яўлення на тэрыторыі гэтых раёнаў нелегальных мігрантаў з краінаў Азіі і Афрыкі. Паводле інфармацыі Мазырскага КДБ, нелегалы трапляюць у Беларусь з тэрыторыі Украіны, а некаторыя мясцовыя жыхары за плату даюць ім ежу, адзенне і прытулак. КДБ тлумачыць людзям, што калі не спыніць паток нелегалаў цяпер, то ў самы бліжэйшы час гэтая праблема можа набыць вельмі вострых характар. Мазырскія оперы прызнаюць, што афра-азіятам, якія імкнуцца трапіць праз Беларусь у багатыя краіны Заходняй Еўропы, актыўна дапамагаюць не толькі крымінальнікі, але і дзяржаўныя чыноўнікі.

**Аляксандр ІВАНІЦКІ**

## Сем новых манашак

Кіраўніца каталіцкага жаночага ордэна сёстраў-назарэтанак Т.Ясеновіч з Рыма наведала Мінск, Гродна і Навагрудак, дзе знаходзяцца «назарэтанскія» дамы. У Навагрудку адбылася ўрачыстасць апранання манаскіх шатаў сямю новымі сёстрамі. Пры гэтым прысутнічаў таксама прадстаўнік Ватыкана ў Беларусі Д.Грушоўскі.

У Навагрудку нават у савецкія часы на фарным касцёле захоўвалася мемарыяльная шыльда на польскай мове, у якой паведамлялася, што пад час апошняй вайны фашысты забілі групу мясцовых сёстраў-назарэтанак.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Ліст у рэдакцыю*

## Не государство, а воровская малина

Нынешний режим создал такую систему, которая даже не снилась в самых сладких мечтах коррупционерам. Армия чиновников, контролеров, милиционеров раздулась до немыслимых размеров.

Действительно, сегодня в Беларуси много дорогих иномарок и шикарных особняков. Но посмотрите, кто на этих «тачках» ездит да живет в теремах — налоговые инспектора, милиционеры, сотрудники налоговых расследований, госконтроля, председатели облисполкомов, чиновники всех уровней, их любовницы (любовники) и, конечно, родственники.

Единственное, чего боятся эти ребята и девчата — это гнева «Григорьича». На суды, на прокуратуру, на граждан они внимания не обращают. Сегодня девиз в стране: «Воруй, но будь предан и делись». Не государство, а воровская малина. Создана система, при которой любого налогоплательщика можно разорить и посадить в тюрьму, вне зависимости от того, платит он налоги или нет.

Схема проста: кто платит взятки, того или не проверяют, или проверяют поверхностно. Кто же не платит, того просто «раздеднут» очередной проверкой доблестные сотрудники контролирующих и правоохранительных органов. Сразу хочу оговориться, речь идет не про всех чиновников, 95% из них — это порядочные люди. Но ключевые посты принадлежат не им. Поэтому они обязаны выполнять волю своих начальников (иначе окажутся в лучшем случае без работы и средств к существованию, в худшем — за решеткой).

**В.ЛЕВОНЕВСКИЙ,** *г.Гродно*

## Сельсоветская дыра в едином пространстве

*Если молодежь не идет в колхоз, ее надо туда загнать*

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Только специалист может хотя бы приблизительно назвать число документов, подписанных во имя интеграции России и Беларуси. Один из них, в частности, предусматривает, что любой россиянин (россиянка) могут учиться в БГУ и прочих учебных заведениях Беларуси, а наши девчата и хлопцы — в МГУ и далее по всему обширному списку тамошних учебных заведений.

Поэтому жители страны-соседки, которые в массе своей более состоятельны, чем средний белорус, охотно поступают в наши вузы, в том числе и на платной основе. Но не даром говорят, что главный капитал Беларуси — люди. Иногда в нашей сельской глубинке появляется человек исключительно талантливый и поступает в известнейший московский вуз.

Но не спешите радоваться, став, например, студентом МФТИ. Вы ведь состоите на учете в сельсовете и военкомате. Поэтому вам можно отказать в выписке здесь, а значит, в праве прописки там. А без прописки нечего делать в российской столице, где ОМОН проводит регулярные зачистки, бесжалостно выбрасывая «нелегалов» на 101-й километр. Независимо от национальности и без учета славянского по крови родства.

Во все это, конечно, трудно поверить, но к такому выводу подводит совершенно конкретная история белорусского парня из витебской деревни, рассказанная им самим. По его словам, сельсовет его не выписывает, ссылаясь на некое негласное (!) распоряжение не отпускать из деревни ребят. Знаете, в жизни нашей сплошь и рядом встречается нечто до удивления дикое. Мы уже писали о том, как в Татарке местная вертикаль отменила Конституцию, запретив леспромхозу принимать на работу колхозников. Но чтобы укреплять колхозные кадры, лишая сельских ребят возможности получать высшее образование, такого слышать не приходилось. К тому же у нас обычно была проблема с пропиской, а чтобы запрещали выписку, об этом помнят разве что глубокие старики.

Выходит, что белорусам их вечное крепостное право возвращают в полном объеме. А может это специфическая форма вымогательства, на которую идут вконец обнищавшие сельсоветчики?

Но самое страшное даже не в том. Парень, рассказавший мне свою историю в расчете на совет и помощь, запуган предельно. Он, волевой, умный, решительный, боится протестовать публично, зная, что его родственники останутся вечными заложниками у местных начальников. Что-что, а невыносимую жизнь они могут создать каждому.

Ну разве можно так жить дальше?

*Расія*

# Чарнамырдзін вярнуўся





У нядзелю прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын адправіў у адстаўку ўвесь кабінет міністраў на чале з Сяргеем Кірыенкам і прызначыў выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна.

Гэтая навіна з'явілася ў нядзелю пад вечар і стала поўнай нечаканасцю амаль для ўсіх прадстаўнікоў расійскай палітычнай эліты, у тым ліку і для самога Сяргея Кірыенкі — яшчэ з раніцы ён працаваў у сваім службовым кабінеце і рыхтаваў чарговы пакет антыкрызісных захадаў, каб прадставіць іх у панядзелак на разгляд прэзідэнту.

Сярод тых, для каго змена ўрада не была нечаканай, — сам Віктар Чарнамырдзін. Апошні тыдзень ён прысвяціў актыўным кансультацыям з дэпутатамі расійскай Думы, а ў чацвер сустракаўся з большасцю кіраўнікоў думскіх фракцыяў. У той жа дзень Чарнамырдзін выступіў з вострай крытыкай урада. Некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што ў нядзелю Віктар Чарнамырдзін сустракаўся з расійскімі фінансавымі магнатамі і з Барысам Ельцыным, пасля чаго і з'явіўся ўказ пра змену ўрада. У нядзелю ўвечары каманда Чарнамырдзіна ўжо рыхтавала сваю праграму выхаду з крызісу.

Віктар Чарнамырдзін пакуль што прызначаны часова выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра — каб зацвердзіць яго на гэтай пасадзе, патрэбная згода расійскай Думы. Атрымаць гэтую згоду будзе няпроста: на сённяшні дзень толькі лідэр дэпутацкай фракцыі «Наш дом — Россия» Аляксандр Шохін падтрымаў змену ўрада. І гэта нядзіўна — бо партыю НДР узначальвае сам Віктар Сцяпанавіч. Лідэры ліберал-дэмакратаў, камуністаў, яблычнікаў і іншых фракцыяў выступілі з крытыкай супраць новай змены кабінета.

Нагадаем, што 23 сакавіка гэтага года Барыс Ельцын адправіў у адстаўку ўрад Віктара Чарнамырдзіна, патлумачыўшы, што *«нам трэба надаць эканамічным рэформам больш энергічнасці і эфектыўнасці»*. Прайшло ўсяго пяць месяцаў — і аказалася, што новы прэм'ер 35-гадовы Сяргей Кірыенка не апраўдаў даверу прэзідэнта.

Асноўнай прычынай адстаўкі кабінета Кірыенкі безумоўна з'яўляецца той фінансавы крызіс, што пануе сёння ў Расіі. Тыдзень таму са згоды ўрада і Цэнтрабанка Расіі фактычна адбылася 34-працэнтная дэвальвацыя рубля. Гэта, дарэчы, паставіла ў вельмі нязёмкае становішча расійскага прэзідэнта, які літаральна напярэдадні даў свае слова, што дэвальвацыі не будзе.

Некаторыя аналітыкі сцвярджаюць, што менавіта дэвальвацыя была апошняй кропляй для расійскіх фінансавых алігархаў, якія і без таго былі незадаволеныя рашучымі захадамі кірыенкаўскага ўрада. Падатковая палітыка, прапанаваная ўрадам Кірыенкі, магла стварыць шмат перашкодаў паспяховаму бізнесу расійскіх фінансавых магнатаў. На думку аналітыкаў, алігархі на чале з Барысам Беразоўскім нібыта напалохаліся, што ў выніку дэвальвацыі яны страцяць шмат грошай, і фактычна прымусілі Ельцына вярнуць назад Чарнамырдзіна.

Нельга забывацца і аб прэзідэнцкіх амбіцыях 60-гадовага Віктара Чарнамырдзіна, які адразу пасля сваёй адстаўкі ў сакавіку заявіў пра жаданне балатавацца на пасаду прэзідэнта. Каму быў цікавы адстаўны прэм'ер, нягледзячы, хай нават і лідэр адной з расійскіх партыяў? Але цяпер ён можа скласці дастойную канкурэнцыю Аляксандру Лебедзю і Юрыю Лужкову. Чарнамырдзіна таксама называюць магчымым пераемнікам Ельцына — і ў гэтай якасці ён цалкам можа перамагчы на выбарах у чэрвені 2000 года.

А вось як каментуе апошнія расійскія падзеі заходняя прэса. Амерыканская *The Washington Post* піша: *«Невядома, як Чарнамырдзін збіраецца змагацца з крызісам. Калі ён быў прэм'ер-міністрам, ён ведаў, як супакоіць ельцынскіх ворагаў, але толькі час ад часу падтрымліваў рэформы, неабходныя для пабудовы рынкавай эканомікі... Да адстаўкі ён не змог супрацьстаяць росту запазычанасці па заробках, а таксама стварэнню той сістэмы ўзаемазалікаў, якая кепска паўплывала на эканоміку дзяржавы»*.

Брытанская *The Financial Times*: *«Прэзідэнт Барыс Ельцын кінуў Расію ў новы этап палітычнага беспарадку...»*

Французская *Liberation* прысвяціла цэлы блок артыкулаў зменам на расійскім палітычным Алімпе. Блок гэты называецца вельмі сімвалічна: *«Расія: п'яны карабель»*. Аналітыкі з *Liberation* пішуць: *«Некаторыя меркавалі, што Расія знаходзіцца на самым дне, і ніжэй ужо апусціцца немагчыма. Але не: расіяне закапваюцца ўсё глыбей»*. Рэдакцыйны артыкул *Liberation* пад назвай *«Сляпы і паралітык»* так характарызуе асобу самога Барыса Ельцына: *«Ён вядзе сваю краіну да развалу. Памылкова атрымаўшы найвышэйшую пасаду ў другі раз, на сённяшні дзень Ельцын — гэта псеўда-цар на сконе, ён гуляе ў людзей і ў функцыі, як мог гэта рабіць Мікалай II напачатку стагоддзя»*.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Так боролась «Солидарность»

# Профсоюз уходит в подполье

Помимо забастовок, у «Солидарности» была еще одна сила — свободная пресса. Уже в сентябре 1980 года полулегально и легально выходило 44 газеты и бюллетеня. Такая деятельность была бы невозможна без соответствующего интеллектуального потенциала. На помощь рабочему движению вновь пришла интеллигенция, которая во многом определила стратегические ориентиры движения.

Наряду с рабочими и интеллигенцией в ряды «Солидарности» массово вступали студенты и крестьяне.

Студенты ВУЗов, создавая свой независимый профсоюз, столкнулись с откровенным нежеланием властей признавать новую организацию. В ответ студенты Лодзи оккупировали здание университета. К ним присоединились преподаватели. Блокада ВУЗа продолжалась несколько месяцев, прежде чем власти признали за студентами право выбора своего профсоюза.

Для крестьян рабочее движение также стало наглядным примером того, как можно защищать свои права. Сельские жители образовали своеобразный крестьянский аналог «Солидарности». Признание «Крестьянской Солидарности» означало бы фактическое появление в стране католической массовой оппозиции. Поэтому власти принципиально не шли ни на какие компромиссы.

Крестьянские активисты отвечали саботажем подвоза сельскохозяйственных продуктов, оккупациями сельсоветов и т.д. В конце концов противостояние вокруг «Крестьянской Солидарности» закончилось трагически: в г. Быдгощи произошло жестокое столкновение между крестьянами и полицией. Это событие вызвало огромный резонанс не только в Польше, но и в мире. «Солидарность» провела предупредительную забастовку, требуя наказать виновных. На 31 марта 1981 г. была намечена всеобщая политическая стачка. В ответ власти демонстративно продлили в стране маневры войск стран-участниц Варшавского договора. Все-таки конфликт в Быдгоще удалось решить путем взаимных уступок. Тем не менее власти были вынуждены признать «Крестьянскую Солидарность».

### Паралич власти

К лету 1981 г. паралич власти был налицо. Ее авторитет стремительно падал. Дошло до того, что поддерживать порядок на улицах польских городов силами милиции оказалось достаточно тяжело. Как только прохожие замечали, что милиционеры или «безпека» (польские гэбисты) тянут какого-нибудь подростка с листовками, они отбивали задержанного и обращали в бегство «блюстителей порядка». На станции Отвоил под Варшавой избиение в милицейском участке трех прохожих привело к настоящему штурму «опорки». Только приглашенный из столицы лидер КОРа смог успокоить толпу. Впрочем, утром неизвестные сожгли злополучный участок. Это явление вызвало к жизни необходимость остановить возможный рост криминальных преступлений. На базе «Солидарности» были сформированы дружины для охраны общественного порядка. Это был явный признак установившегося в стране двоевластия.

В сентябре—октябре в Гданьске прошли два этапа съезда «Солидарности». Съезд принял программу, требующую преобразования политической системы, внедрения производственного самоуправления. Для властей это означало прямое посягательство на монополию общественного управления. На 4 пленуме ПОРП Войцех Ярузельский был избран первым секретарем компартии Польши. Занимая, кроме того, пост премьер-министра и министра обороны, он сосредоточил в своих руках власть, достаточную для осуществления военного переворота.

### Военное положение

В декабре 1981 г. в Польше поляризация общества достигла своей кульминации. Своего рода искрой послужили резолюции Радомского заседания национальной комиссии «Солидарности». «Солидарность» вновь подчеркнула, что согласится на повышение цен лишь только в том случае, если это повышение будет элементом комплексной экономической и демократической реформы. В знак протеста против возможной передачи правительству права вводить военное положение на 17 декабря была назначена забастовка.

13 декабря в ночь с субботы на воскресенье во всей Польше перестала функционировать телефонная связь. В полночь правительство объявило о введении чрезвычайного положения. Еще через полчаса в двери квартир профсоюзников «замолотили» сапоги спецназовцев.

Начался переворот.

В те дни поляки чувствовали себя подобно тому, как чувствуем себя сегодня мы. Они были поражены и подавлены акциями режима.

Переворот 13 декабря готовился долго и по всем правилам. Хунта Ярузельского предусмотрела все: от мест заключения и списков тех, кому эти места предстоит заполнить, до подробного военного законодательства. Даже будущие военные администраторы прошли соответствующую стажировку. В предшествующие перевороту недели были очищены от уголовников тюрьмы крупных городов, подготовлены пансионаты, где предполагалось содержать заключенных. Еще за месяц до переворота милицией была подготовлена специальная радиосвязь. За несколько дней до назначенного часа отменили отпуска и увольнительные. Увы, люди из «Солидарности» не придали этим фактам должного значения.

Военное положение было введено с субботы на воскресенье. В это время в Гданьске заседала общепольская комиссия «Солидарности», и практически все руководство профсоюза находилось в одном месте.

За 18 часов до переворота наблюдатели «Солидарности» информировали руководство о странных передвижениях армии, в том числе танков. Однако большой тревоги это не вызвало, т.к. в течение последних месяцев такого рода информация поступала несколько раз и не имела серьезных последствий. Примерно за 5—6 часов до переворота началась мобилизация милиции. Во все участки МВД поступило распоряжение открыть заранее заготовленные конверты с инструкциями. Инструкции предписывали концентрироваться поблизости от офисов «Солидарности» с тем, чтобы ровно в полночь начать действовать.

В полночь начались аресты. Отряды милиции врывались в штаб-квартиры «Солидарности» во всей стране. На центральное бюро в Варшаве, где в этот момент находилось не более 15 человек, совершила нападение группа захвата из 150 спецназовцев. Одновременно группы милиции и «гэбешников» взяли по домам активистов «Солидарности». Людей вытаскивали из постели, выволакивали на улицу и увозили в места сбора интернированных. Как правило, при задержании применялась сила.

Уже в первую ночь было арестовано 4 тысячи человек, в течение года количество интернированных достигло десяти тысяч. Сначала их поместили в очищенные от уголовников тюрьмы, через 1—2 недели наиболее известных перевели в лучшие условия.

С утра 13 декабря был введен комендантский час. Было запрещено уезжать с места прописки. Каждая поездка за город сопровождалась отметкой милиции. Когда заработал телефон, записанный на магнитофонную пленку голос «гэбешника» приветствовал поляков словами «Разговор прослушивается». На все письма ставился штамп «Прошло цензуру». И то, и другое было попыткой запугивания. В декрете «О военном положении» предусматривались достаточно серьезные наказания за продолжение профсоюзной деятельности (вплоть до смертной казни). Власти ни разу не применяли эти меры, однако теоретическая возможность казни за участие в профсоюзе постоянно оказывала давление на психику.

Итак, неожиданность применения чрезвычайных мер позволила правительству успешно провести операцию и загнать «Солидарность» в подполье. И все же «Солидарности» удалось вырвать поляков из оцепенения страха и покорности, наладить эффективное сопротивление и в итоге победить. Сопротивление началось в то же утро 13 декабря.

### «Солидарность» уходит в подполье

Повальные аресты рабочих лидеров, введение комендантского часа, запрет общественных организаций, вплоть до Союза художников — все это с точки зрения хунты Ярузельского должно было надежно перестраховать Польшу от возможного возрождения «Солидарности». Однако уже в первый день после переворота 13 декабря ряд предприятий был оккупирован рабочими, намеревавшимися решительно отстаивать завоевания 1980—81 гг. Властям пришлось бросать на подавление забастовок военные части, которые с помощью танков прорывались на предприятия и разгоняли рабочих. Наиболее жестокие столкновения произошли в шахтерских регионах. Вооруженным чем придется горняки несколько дней оказывали успешное сопротивление вышколенным спецназовцам. В ходе подавления волнений режим не колебался даже перед применением оружия. На шахте «Вден» было расстреляно шестеро шахтеров. 17 декабря в Варшаве милиция пустила в ход газ и дубинки, чтобы разогнать сорокатысячную манифестацию протеста.

Мобилизовав весь аппарат репрессий, власти смогли выстоять в первые дни после переворота. К концу месяца волна полустихийных стачек спала. Стало ясно, что условием свержения диктатуры будет долгая работа в подполье.

**Кирилл КУДРЯВСКИЙ**

*(Продолжение следует. Начало в №№ 85—87)*

# Мир устроен для правшей?

## *Что общего между Мэрилин Монро и Джеком Потрошителем?*

Не ломайте голову, все равно не догадаетесь, а вот шесть миллионов британцев ответят на этот вопрос сию же секунду: оба они, а также Леонардо да Винчи, Пабло Пикассо, Чарли Чаплин, Альберт Эйнштейн и ныне здравствующие американские президенты Рейган, Буш и Клинтон — левши. И те шесть миллионов жителей Соединенного Королевства, что знают об этом, также имеют «левостороннее» развитие. На прошлой неделе они отмечали свой ежегодный праздник «День левшей». Как всегда, на площади около Ковент-Гардена состоялась манифестация, закончившаяся исполнением гимна «Песнь левшей», а в иных пабах (т.е. — пивных) правшам выдавали кружку пива бесплатно, если им удавалось левой рукой открыть бутылку с вином.

Шутки шутками, но в мире левши, оказывается, давно воюют с правшами за свои права. Английские левши, например, считают себя наиболее угнетенным слоем населения, несмотря на то, что в Великобритании, как и во многих иных странах мира, давно уже отменили в начальных школах требование обязательного писания правой рукой. Тем не менее, возмущаются левши, все вокруг — двери, штопоры, печатные машинки и компьютеры, бытовое оборудование — сделано в интересах удобства «правого большинства».

Эх, нам бы их заботы, улыбнетесь вы. Тем не менее, по статистике, 10% новорожденных рождаются левшами. Считается, что леворукость наследуется: если один из родителей левша, то это свойство наследуют 17,2% детей, а если левши оба родителя — то 46%.

Леворукость — это не только предпочтительное пользование левой рукой, это целый комплекс анатомо-физиологических особенностей: например, у левшей мимика более выражена слева, и центр речи у них расположен в правом полушарии мозга, а у правшей — в левом. Кстати, замечено, что в спорте — в теннисе, боксе — левши имеют явные преимущества перед правшами. Тем не менее поскольку мир действительно устроен для правшей, левшам приходится или переучиваться, или ухитряться пользоваться в равной степени активно обеими руками.

Это часто связано с психологическими стрессами, велик риск возникновения травм и несчастных случаев. Опять же, неумолимая статистика свидетельствует, что продолжительность жизни левшей на 9 лет короче, чем у правшей. Поэтому родителям советуют решать проблему леворукости своего ребенка именно в тот период, когда происходит становление привычки пользоваться правой или левой рукой — в возрасте 4 — 5 лет.

Кстати, тут взрослым хорошо бы проконсультироваться со специалистами: дело в том, что особенностями личностных свойств леворуких детей являются повышенная эмоциональность, ранимость, неуверенность в себе, и поэтому важно решить, стоит ли заставлять ребенка пользоваться правой рукой или воспитывать как леворукого.

Если вы решили все-таки «переделывать» своего малыша, действуйте осторожно и по возможности незаметно. Просто создайте более комфортные условия для правой руки: во время еды, рисования, лепки, игры. А если ребенок будет оказывать упорное сопротивление вашим попыткам, лучше их прекратить. И поставить настольную лампу с правой стороны.

В конце концов, к школьному возрасту ребенок уже сам изберет, какой рукой ему удобнее действовать, чтобы не отставать от своих сверстников.

**Ольга ДАНИЛОВА**

# Золотое имя

## *Одна из самых малочисленных наций мира надеется стать одной из самых богатых*

Руководители крошечного полинезийского государства Тувалу, кажется, нашли способ избавиться от бедности и даже войти в число ведущих стран по уровню дохода на душу населения. Подписав на днях договор о продаже прав на свой адрес в системе Интернет одной канадской компании, Тувалу сможет получить сумму, превышающую приблизительно в 20 раз величину национального бюджета.

Пока основным источником дохода госказны является рыболовство. Но счастье тувальцев заключается в названии их страны, благодаря которому они получили короткий запоминающийся адрес в Интернете — tv. Особую ценность он представляет для телевизионных компаний, которые готовы выложить миллионы долларов за право пользования этим уникальным буквенным сочетанием. В этом случае пользователям Интернета в море адресов глобальной компьютерной сети намного легче их найти.

Численность населения Тувалу, проживающего на 9 низменных коралловых атоллах в юго-западной части Тихого океана, составляет всего лишь 9 тысяч человек.

Премьер-министр Бикенибеу Паениу надеется, что ежегодный доход в казну государства от этой сделки будет составлять от 60 до 100 млн. долларов. Чисто арифметический подсчет показывает, что на каждого тувальца будет приходиться от 6,6 до 11 тысяч долларов. К примеру, в богатом нефтью Брунее, где один из самых высоких доходов на душу населения в мире, средняя зарплата составляет 15 тысяч долларов в год.

Тувальцы уже решили, как распорядиться такими огромными деньгами. Премьер-министр заявил, что полученные средства будут направлены на развитие авиации, здравоохранения и образования, а также на научные исследования, связанные с глобальным потеплением. Последнее покажется несколько странным, но для тувальцев это вопрос жизни или смерти. Дело в том, что коралловые атоллы страны, которые находятся на высоте 4 метра над уровнем моря, могут быть затоплены при потеплении.

**Б.П.**




Тры прыгажуні з краінаў Балтыі — 17-гадовая літоўка Лаўра Юкнытэ (злева), 17-гадовая латышка Гуна Вейня (у цэнтры) і 15-гадовая эстонка Крыстэль Кама перамаглі ў конкурсе топ-мадэляў *Elitinis Top-Modelis-98*, які праходзіў у Вільні ў мінулую суботу. Разам з дыпломам дзяўчаты атрымалі права паўдзельнічаць у міжнародным конкурсе прыгажосці *Look Of The Year-98*. Конкурс пройдзе ў верасні на Французскай Рыўеры ў горадзе Ніца.

## Ваш билетик!

На международной ярмарке по технологии обработки жести, проходившей недавно в Германии, впервые был опробован новый способ организации потока посетителей. Входные билеты заменили выходными. Войти можно было бесплатно и не выстаивая очереди в кассу, а внутри у стендов наряду с каталогами и проспектами раздавали карточки на выход. У выхода карточку надо было оплатить. Оказалось, что такая система сильно экономит время посетителей.

## Вся Германия в дыру

По данным английского журнала *New Scientist*, из щелей и отверстий российских газопроводов и плохо герметизированных промысловых буровых установок ежегодно в атмосферу просачивается около 35 миллионов тонн природного газа, чего хватило бы на год такой стране, как Германия. Природный газ создает в 60 раз более сильный парниковый эффект, чем углекислый газ.

## Неблагодарная работа

Одна американка потребовала через суд около тысячи долларов с телеведущего прогноза погоды «за неверный прогноз». Поверив сообщению о солнечной погоде и попав под дождь, она простудилась и потратила 38 долларов на лекарства.

## Мало денег – заработай!

В Канзасе (США) грабитель зашел в магазин и потребовал у кассира выручку. Денег оказалось маловато, и он, связав кассира, три часа работал на его месте — до прибытия полиции.

*По материалам зарубежной прессы подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Перст указующий

Вы никогда не задумывались над таким вопросом: почему детей приходится отучать от привычки указывать на людей пальцем (это неприлично), но не приходится учить тыкать пальцем в тех случаях, когда это уместно?

Видимо, это чисто инстинктивное, автоматическое поведение. Как известно, оно присуще только человеку. Правда, у большинства животных нет длинных пальцев, которые могли бы служить указкой. Но, например, обезьяны вполне могли бы тыкать пальцем в предметы, привлекающие их внимание, однако никогда этого не делают.

Младенцы начинают указывать пальцем примерно в возрасте 11 месяцев (по данным американских и канадских психологов, девочки — в возрасте 327 дней, мальчики — 350 дней). В двадцатых годах известный русский психолог Лев Выготский предположил, что дети учатся этому у своих матерей и используют вытянутый палец, чтобы привлечь внимание матери к предмету, до которого сам ребенок не дотягивается.

Эту гипотезу недавно проверяли американские и итальянские психологи. Джордж Баттеруорс усаживал младенцев, недавно начавших указывать пальцем, на высокие стульчики, рядом сажал матерей. Перед детьми были привлекательные игрушки: ряд игрушек на расстоянии чуть дальше протянутой руки, другой ряд — подальше. К близким игрушкам дети то просто тянулись, то указывали на них пальцем, а на дальние — только указывали. Причем в этом случае оборачивались к матери, видимо, стараясь привлечь ее внимание и прося достать игрушку, дотянуться до которой самостоятельно нет никакой возможности.

Но итальянцы Фабио Франко и Пауло Перручини обнаружили, что дети указывают пальцем на привлекающие их игрушки и в том случае, когда матери рядом нет, а есть только дети того же возраста, не умеющие говорить и также неспособные достать игрушку. Здесь указывание пальцем явно используется только как способ сообщить соседям об интересном объекте, поделиться своим любопытством и радостью.

Японец Нобуо Масатака из Киотского центра по исследованиям приматов, наблюдая за трехмесячными младенцами, обнаружил, что уже в этом возрасте они, взаимодействуя с матерью, ритмично выставляют указательный пальчик и агукают. Видимо, это все же врожденный жест, а мать лишь закрепляет его своей жестикуляцией.

Как обнаружил Дж. Баттеруорс, когда интересный объект находится в центре поля зрения, дети чаще используют для указывания правую руку. Если же объект сбоку, используется та рука, которая к нему ближе.

Канадские и американские психологи обнаружили, что, чем раньше ребенок начинает указывать на предметы пальцем, тем быстрее и успешнее он учится говорить. А по наблюдениям Маргарет Харрис из Лондонского университета, дети начинают указывать пальчиком на той же неделе жизни, на которой они явно начинают понимать названия отдельных предметов — мяч, кошка, кубик... Луиджи Камиони из Римского университета утверждает, что, чем раньше ребенок начал пользоваться указательным пальцем, тем больше слов он знает к 20-месячному возрасту.

Итак, указывание пальцем — не просто жест, это важный шаг на пути к языку.

**Н.Ж.**





## Даты і лёсы

### *25 жніўня*

**1953.** Нарадзіўся беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў. Сёння яму спаўняецца 45 гадоў.

**1968.** На Краснай плошчы ў Маскве адбылася адна з першых публічных акцыяў дысідэнцкага руху ў СССР. Сем чалавек разгарнулі транспаранты «Рукі прэч ад Чэхаславакіі!», «Ганьба акупантам», «За нашу і вашу свабоду!». Амаль адразу да іх збегліся з усіх бакоў плошчы супрацоўнікі дзяржбяспекі, схапілі дэманстрантаў і завезлі на Лубянку. Пяць з сямі дысідэнтаў былі асуджаныя да турэмнага зняволення.

**1991.** «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі» ад 27 ліпеня 1990 г. быў нададзены статус канстытуцыйнага закона. Вярхоўны Савет прыняў пакет рашэнняў аб эканамічнай і палітычнай самастойнасці Беларусі, аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ і нацыяналізацыі ўласнасці партыі і камсамола. Міністэрства ўнутраных справаў і КДБ Беларусі былі выведзеныя з падпарадкавання Маскве. Старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей падаў у адстаўку.

### *26 жніўня*

**1743.** Нарадзіўся заснавальнік сучаснай хіміі Антуан Лавуазье, які быў таксама адным з стваральнікаў метрычнай сістэмы даўжыняў і вагаў.

**1873.** Нарадзіўся амерыканскі вынаходнік радыёлямпы (1907) Лі Дэ Форэст. Да з'яўлення транзістараў радыёлямпы былі асноўным элементам у радыёпрыёмніках, камп'ютэрах ды іншых электронных прыборах.

**1933.** Саўнаркам БССР прыняў пастанову «Аб зменах і спрашчэннях беларускага правапісу».

**1941.** Гітлер і Мусаліні агледзелі руіны Брэсцкай крэпасці і наведалі выставу трафейнай савецкай тэхнікі, разгорнутую каля Цярэспальскай брамы.

**1943.** Выконваючы загад Масквы, беларускія партызаны пачалі знішчаць атрады Арміі Краёвай, з якімі раней супрацоўнічалі. Каля возера Нарач першым быў разгромлены атрад «Кміцыца». Польскія афіцэры, запрошаныя на перамовы ў савецкі лагер, былі расстраляныя. Жаўнеры былі абяззброеныя, 80 з 200 расстралялі, астатніх пусцілі дахаты.

### *27 жніўня*

**1783.** Жак Шарль узняўся ў неба над Парыжам на першым паветраным шары, які быў напоўнены вадародам.

**1883.** На востраве Пулаў (цяпер Інданезія) узарваўся вулкан Кракатаў. Выбух быў чуваць у радыусе 5.000 км. Па моры разышліся такія магутныя хвалі, што аж на Гавайскіх астравах загінулі 36 тысяч чалавек. Попел яшчэ некалькі гадоў лунаў у атмасферы. Гэта была буйнейшая катастрофа ў пісьмовай гісторыі чалавецтва.

**1991.** Малдова выйшла са складу СССР.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1226 Нумар падпісаны ў друк 24/08/98 (15:42) Наклад — 19.700